

# Беларускі калекцыянер

1991 г. сакавік

№ 3

Выданне Арганізацыйнага камітэту Беларускага т-ва калекцыянераў


# Дзень незалежнасьці

Толькі два апошнія гады беларускі народ на сваёй Радзіме святкуе Дзень незалежнасьці. Гэта сьвята прыпадае на 25 сакавіка, бо менавіта ў гэты дзень была абвешчана ў 1918 годзе незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Шмат гадоў у афіцыйнай беларускай прэсе факт абвяшчэньня і існаваньня БНР усяляк замоўчваўся, а апошнія гады робяцца спробы даказаць, што справа беларускай незалежнасьці далей абвяшчэньня не пайшла. Мы тут ня будзем спрачацца з „уважаемыми товарищами", у нас зусім іншыя мэты.

Беларуская Народная Рэспубліка пакінула пасьля сябе ня толькі Дзень незалежнасьці, але і восем паштовых марак і цэлы шэраг адмысловых паштовак. Гэтыя цікавыя выданьні, сьведкі нашай дзяржаўнасьці, сёньня зьяўляюцца ўпрыгожваньнем любой калекцыі беларусікі. І чым больш будзе становіцца колькасьць нацыянальна-сьведамых калекцыянэраў, тым больш рэдкімі будуць станавіцца гэтыя выданьні. Але ў прынцыпе, калі задацца мэтай, паштовыя маркі часоў БНР можна сабраць, тым больш, што ў Маскве час ад часу яны зьяўляюцца цэлымі аркушамі. А вось паштоўкі тых часоў сёньня сапраўды зьяўляюцца вялікай рэдкасьцю. І









НІХАЙ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА!

*Паштоўка, выдадзеная ў 1918 г. „Таварыствам імя Ф. Скарыны" у Берліне.*

яшчэ далёка ня кожны калекцыянэр паштовак можа сказаць, што ў яго ёсьць паштоўкі часоў БНР. Сапраўды, арыгіналаў мала, а жадаючых іх набыць шмат. Паўстае пытаньне – што рабіць? А для гэтага ёсьць такі сродак, як факсіміле. Дык вось, чаму б не зрабіць факсімільнае выданьне ўсіх паштовак БНР. Магчымасьць для гэтага ёсьць, і можна на гэтым зарабіць крыху грошай, якіх так не стае нашаму Адраджэньню. Толькі ня трэба з гэтым зьвяртацца да нашых афіцыйных асоб, бо яны як нічога не рабілі ў справе пашырэньня беларускіх паштовак, так і рабіць ня будуць. Таму трэба самім брацца за гэту справу і пачаць гэтую працу менавіта з перавыданьня паштовак БНР. Хопіць нам ужо прасіць, плакаць, жаліцца – трэба працаваць, будаваць свой уласны дом, тым больш, што падмурак закладзены яшчэ ў 1918 годзе.

Б. К.

## Лісты у рэдакцыю

# З фантастыкі да рэалій

З цікавасьцю прачытаў у другім нумару „Беларускага калекцыянэра" за 1991 год артыкул Вінцука Вячоркі „Беларуская філатэлія". Шмат слушных і вартых прапаноў выказвае аўтар. І думаецца, што з гэтымі прапановамі трэба рухацца-грукацца да ўсемагчымых інстанцый, пакуль яны ўладары-гаспадары. А дзеля гэтага – нядрэнна было б, каб прапановы В. Вячоркі прагучалі і са старонак, да прыкладу, „Народнай газеты", менскага „Добрага вечара". Веру, што пачуе голас В. Вячоркі і згаданы ў яго артыкуле як калекцыянэр Анатоль Гурыновіч, намесьнік старшыні Менгарсавета. А згадаўшы, патурбуецца, каб гашэньні ў беларускай сталіцы рабіліся па-беларуску.

Што датычыць прапаноў, то мне здаецца, нягледзячы на ўсялякія рагаткі, беларускія маркі-познамкі павінны быць распрацаваны (і геральдыка, і готыка) ужо зараз. І зараз павінны быць пададзены заяўкі ў Міністэрства сувязі і БССР, і Краіны. Будзе адмова?... То чаму ж тады не паставіць пытаньне рубам і ўважліва, усур'ёз не прааналізаваць словы В. Вячоркі: „Ня маем маральнага права прамінуць магчымасьць на нашых мініятурах зарабіць крыху валюты (кормяцца ж з гэтага Ліхтэнштэйн ды Сан-Марына) і ўрэшце ўбіць сьвету ў галаву, што ёсьць такая зямля Беларусь".

Мяркуецца мне (кажу гэта ўжо ў працяг артыкула В. Вячоркі), што энэргічней трэба дзейнічаць і ў сэнсе стварэньня фалерыстычнай прадукцыі. Акрамя Скарыны, Каліноўскага, Караткевіча, якім значкі ўсё ж прысьвечаны, у нас гэтулькі імёнаў, вартых самай шырокай папулярызацыі ў народзе. Ня сьлед забываць, што значкі-адзнакі, маркі-познамкі – добры сродак у пазбаўленьні людзей гістарычнага бэспамяцтва. Як добрым сродкам у гэтым жа клопаце бачыцца мне і сам факт выданьня „Беларускага калекцыянэра".

Алесь КАРУКЕВІЧ,
Менск.

# Ад сябра з Рыгі

Для мяне, даўняга зьбіральніка беларускасьці, Ваша газэта сапраўдны падарунак. Я пачаў зьбіраць беларускія паштоўкі ў 1968 годзе, сустракаў шмат розных калекцыянэраў з розных гарадоў краіны і бачыў: усе зьбіраюць сваё блізкае ці што датычыць горада, у якім жыве, або народа, якому прыналежыць. Аднак, калі сустракаў калекцыянэраў-беларусаў у Менску, то найбольш, ці нават усе, зьбіралі Расею ці замежныя паштоўкі, маркі, календары і г. д. Я заўсёды дзівіўся гэтаму нацыянальнаму нігілізму большасьці беларускіх калекцыянэраў, якія не бачылі каштоўнасьці ў зьбіраньні беларускай тэматыкі. Яны з задавальненьнем аддавалі мне краявіды беларускіх гарадоў на старых дарэвалюцыйных паштоўках за рэпрадукцыю на паштоўцы расейскага мастака ці замежнага. Шмат разоў я прапаноўваў гэтым людзям зьбіраць у першую чаргу ўсё, што датычыць нашай Беларусі, аднак гэта не прыносіла выніка. Да нас у Рыгу прыязджаюць на вялікія зборы калекцыянэры зь Менску. І ў каго я не запытаю, што яны зьбіраюць беларускае, яны заўсёды гавораць, што зьбіраюць увесь Сьвет. Вось як выбіла зь іх мазгоў савецкая сістэма ўсё беларускае. Канешне, былі на Беларусі і калекцыянэры-патрыёты, аднак гэта патрыёты свайго краю ці горада, бо яны цураліся роднай мовы, беларускасьці, толькі адзінкі сьведамых беларусаў зьбіраюць усё беларускае. Усіх я, канешне, ня ведаю, аднак некаторыя зь іх – гэта мае сябры: Адам Мальдзіс, які зьбірае беларускія паштоўкі і ўсё, што датычыць Беларусі 17–18 стагоддзяў; Янка Саламевіч зьбірае беларускія календары; Міхась Вераціла зьбірае беларускія манеты і маркі. Я зьбіраю беларускія паштоўкі ня толькі старыя, але і сучасныя, а такіх на Беларусі няшмат. Таму Беларускае таварыства калекцыянэраў і выданьне „Беларускага калекцыянэра" толькі на беларускай мове, я лічу, павінны пашырыць кола сапраўдных беларусаў-калекцыянэраў.

Вячка ЦЕЛЕШ,
Рыга.

# БЕЛАРУСКІЯ МАНЕТНЫЯ ДВАРЫ

Больш як за сорак год калекцыяніравання грашовых знакаў я прайшоў усе этапы ад збіральніцтва да творчага даследвання. І толькі цяпер, на апошнім этапе, неяк нечакана ўзнікла думка прасачыць „у прасторы і часе" месцы выпуску грашовых знакаў для Беларусі (спачатку манет, а потым і папяровых знакаў). Карацей: хто і дзе рабіў грошы для Беларусі?

Бярэм аловак і лісток паперы...

Гэта, па-першае, астравы і ўзбярэжжа Індыйскага акіяна (ракавіны-румашкі каўры); потым амаль усе гарады Бліжняга і Сярэдняга Ўсходу (што чаканілі дырхемы); гарады Францыі, гістарычнай Германіі, Нідэрландаў, Гішпаніі, Польшчы, ВКЛ, Швецыі, Грэцыі, гістарычнай Італіі, Аўстра-Венгерскай Імперыі, гістарычнай Расіі, нават Амерыкі (макухіны), Англіі, Бельгіі, ЗША, Японіі...

Гэта – калі бегла, а калі скрупулёзна даследаваць кожную манету, кожную „паперку", што пракаціліся і праляцелі праз „весьнічкі Эўропы", дык лягчэй будзе назваць гарады і краіны свету, што не выпускалі грошай для беларусаў.

І я зразумеў, што гэтая праца на доўгія гады і вырашыў спыніцца на манетных дварах этнаграфічна беларускіх гарадоў. Хаця як, напрыклад, лічыць сталіцу Вялікага княства Літоўскага – Вільню, дзе былі адчаканены амаль усе манеты ВКЛ – беларускім горадам ці не? Дзяржаўная, заканадаўчая, справаводная і літаратурная мова – беларуская, а зямля сёння – літоўская?

Таксама стаіць справа і з Тыкацінскім манетным дваром. Знаходзіўся ён на пагранiччы ВКЛ і зямлі Мазавецкай, чаканіў у 1566 годзе паўгрошы і грошы па стапе ВКЛ і для насельніцтва ВКЛ, а сёння знаходзіцца на тэрыторыі Польшчы.

Але тут гаворка пойдзе пра дзяржаўныя манетныя двары ў Бярэсьці, Гародні і Полацку.

## БРЭСТ

22 сакавіка 1659 года Варшаўскі сейм прымае пастанову „Аб чаканцы манеты", дзе ў спецыяльным 15-тым раздзеле „Мынніца В. К. Літоўскага" гаворыцца:

„Належыць для парадку і карысці ўсеагульнай, абы Мынніца заснавана была ў Вялікім Княстве Літоўскім на цяперашнія Рэчы Паспалітай патрэбы, абдумваючы спосабы, як абавязкова выплаціць войскам нашым доўг. Зачым з усеагульнай згоды пастанаўляем, каб у Брэсце Літоўскім заложана і найхутчэй падрыхтавана была. Што даручаем Вяльможнаму Адміністратару Скарба Вялікага Княства Літоўскага цяпер, каб эфектыўна выканаў усё гэта коштам з падаткаў Рэчы Паспалітай. А каб гэта належным і паспяховым стаць магло, даручаем Дэпутатам у Трыбунал Скарбовы гэтым сеймам назначаным, каб там жа ў Гродне ў час работы таго Трыбунала ўгаварылі і дастаткова пастанавілі, каб Мынніца Вялікага Княства Літоўскага па сваёй (манетнай – М. В.) стапе ў адпаведнасць з Мынніцай Кароннай прыведзена была. І найпярвей дазваляем выбіць Мільён адзін (злотых – М. В.) шэлегамі".

Вельмі цяжкія палітычныя і эканамічныя абставіны ў краіне затрымалі выкананне сеймавых ардынацый. І толькі пастановай ад 6 ліпеня 1665 года, нарэшце, урухомілі першы беларускі манетны двор у Брэсце.

Што ж прымусіла Яна II Казіміра адкрыць яшчэ адну „Вялікакняскую мынніцу", бо ўжо працавала Віленская (1664–1666) і Ковенская (1665–1666).

Разбураныя шведска-польскай дынастычнай вайной гарады, заняпад рамесніцтва і гандлю, пустая дзяржаўная скарбніца – вось што заставіла караля ўхапіцца за прапанову Ціта Лівія Бараціні пачаць чаканку медных шэлегаў. (Больш падрабязна аб гэтым я расказаў у апавяданні „Ліхі шэлег"). А пакуль што: як выглядаў брэсцкі шэлег?

За панаванне Яна II Казіміра Вазы амаль усе манеты Рэчы Паспалітай нясуць на сабе яго партрэт. Нават на малюсенькім брэсцкім шэлегу – галава караля, павёрнутая ўправа, на ёй лаўровы вянок, а вакол лацінскі надпіс: „Ян Казімір, кароль", на адваротным баку – „Пагоня", а пад ёю – „Галава аленя" – знак „мынніцы" ў Брэсце. +) Па акружнасці манеты легенда: „Солід (шэлег) Вялікага княства Літоўскага" і год чаканкі.

Загадчыкам Брэсцкага манетнага двара ў 1665–1666 гг. быў пераведзены з Аліўскага (пад Гданьскам) манетнага двара Георгій Фрыдарык Горн, ініцыялы якога „ " відаць пад партрэтам караля. Але перад самым закрыццём двара, недзе ўжо ў другой палове 1666 г., замест літар „ " на невялікай колькасці шэлегаў з'яўляюцца літары „ " – ініцыялы Тодара Горна, брата Георгія. Шэлегі з гэтымі літарамі – вялікая нумізматычная рэдкасць!

*(Працяг на 2-й стар.)*

*+) Некаторыя нумізматы сцвярджаюць, што соліды з гербам „Галава аленя" чаканіліся на Ковенскім (Каўнас) манетным двары.*

*А як тады тлумачыць ініцыялы „ "? На Віленскіх і Ковенскіх солідах стаіць манаграма падскарбія вялікага літоўскага: „ " – Н К К Р І („Геранім Крышпін Кіршэнштэйн падскарбі Літоўскі") (1662–1676).*

# БЕЛАРУСКІЯ МАНЕТНЫЯ ДВАРЫ



*Шасціграшовік 1706 года, адчаканены ў Гародні.*

*(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).*

Брэсцкі манетны двор займаўся чаканкай выключна медных шэлегаў („барацінкаў") на працягу 1665–1666 гадоў. За перыяд са жніўня 1665 года па верасень 1666 года брэсцкія манетчыкі выпусцілі каля 250 мільёнаў штук медных „барацінкаў".

Цікавы лёс самаго вынаходцы. Бараціні быў галоўным і адзіным кіраўніком усіх „шэлегавых мынніц" Рэчы Паспалітай. А за сваё вынаходства („барацінак") ледзь не паплаціўся свабодай, як і другі „наватар" – Андрэй Тымф, які вымушаны быў спешна ўцякаць ад людскога і каралеўскага гневу за мяжу Рэчы Паспалітай (чытай апавяданне „Лекі ад скулаў"). Але італьянец Бараціні аказаўся хітрэйшым за свайго „калегу", ён даўно, відаць, уцяміў, што найлепшая абарона – нападзенне. Таму, замест таго, каб уцякаць, ён паскардзіўся каралю, што выпускаючы медныя шэлегі „на карысць Рэчы Паспалітай", ён панёс зыск з уласных грошай на паўтара мільёны злотых. І відаць даказаў гэта, бо суд прызнаў скаргу Бараціні „слушнай", а кароль дазволіў яму (ужо пасля закрыцця ўсіх „шэлегавых мынніц") прадоўжыць чаканку шэлегаў на Кракаўскім манетным двары яшчэ год, каб пакрыць уласныя страты. Вось табе і на! Толькі Бараціні так і не паспеў вярнуць сабе доўг, бо ў 1668 годзе Ян II Казімір Ваза выракаецца трону і выязджае ў Францыю. Усе манетныя двары закрываюцца. Але Бараціні, відаць, працягвае судзіцца з дзяржавай за свае мільёны. Нарэшце ў 1672 г. каралеўская канцылярыя (ужо пры новым каралі Міхаіле Карыбуце Вішнявецкім) канчаткова акрэсліла доўг Бараціні ў паўтара мільёны злотых. Але памірае і гэты кароль (у 1673 г.), а ўрад ніяк не можа разлічыцца з Бараціні. І толькі сейм 1679 г., што адбыўся ў нашай Гародні, пастанавіў аддаць Т. Л. Бараціні „ў дзяржаву" Кракаўскі манетны двор, які і пачаў працаваць у снежні 1679 г. Каб хутчэй разлічыцца з Бараціні, кароль (ужо Ян III Сабескі) аддае яму і манетны двор у Быдгошчы.

Неўзабаве Т. Л. Бараціні памірае ў 1682 годзе. Кракаўскі манетны двор аддаюць спадкаёмцам Бараціні, але ў сувязі з вялікай фінансавай афёрай былога падскарбія вялікага кароннага Андрэя Морштына (што ўцёк у Францыю), новы падскарбі – Марцін Замойскі пазбаўляе нашчадкаў Бараціні „мынніцы". Чым скончылася гэта справа, так і невядома.

## ГРОДНА

Другім у гісторыі Беларусі манетным дваром быў Гродзенскі. Двухгадовае яго існаванне – рэзультат грамадзянскай вайны ў Рэчы Паспалітай паміж прыхільнікамі двух прэтэндэнтаў на польскі трон: саксонскага курфюрста з дынастыі Вэтцінаў Аўгуста II Моцнага (1697–1706, 1709–1733) і Станіслава Ляшчынскага (1704–1709, 1733–1736).

Перамог „Сас". У 1703 годзе Аўгуст II назначыў літоўскага стражніка Людвіга Пацея вялікім падскарбіем літоўскім (1703–1709 гг.). Праз кароткі час саюзнік Расіі ў Паўночнай вайне – Аўгуст II быў разбіты шведамі і вымушаны аддаць польскі трон на тры гады шведскаму стаўленніку Станіславу Ляшчынскаму. Менавіта ў гэты час (1706–1707) Людвіг Пацей, верны Аўгусту II, адкрывае ў Гродна манетны двор і пачынае чаканку сярэбраных трох- і шасціграшовікаў з партрэтам выгнанага Аўгуста II Моцнага. Грошы гэтыя прызначаліся для выплаты войску прыхільнікаў „караля Саса", якое базіравалася на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага.

*(Заканчэнне на 4-й стар.).*



*Шэлег ВКЛ, адчаканены ў Бярэсьці.*

# Калекцыяванне па-польску

Польская армія, акупаваўшы частку Беларусі ў 1919 г., арганізавала зьбіраньне ўсялякіх старажытных рэчаў. Ініцыятыву ў гэтай справе ўзяло на сябе „Товажыствэ Крэсовэ", якое арганізавала ва ўсіх гарадох гурткі з аматараў старасьветчыны. Гэтыя гурткі далі магчымасьць выявіць найбольш цікавыя, рэдкія і каштоўныя экспанаты.

Калі польская армія пачала адступаць, пачаўся масавы вываз з Беларусі цэлых музэяў. Так, быў вывезены цэлы музэй Ельскага з Менску, у якім было некалькі сот бязьмерна каштоўных абразоў (карцін), музэй Эмануэля Булгака з-пад Быхава, у якім зьмяшчалася да 16 тысяч высокакаштоўных экспанатаў, музэй Ельскага з Замосьця, калекцыя старажытнай краёвай зброі Чапскага з Прылукаў, розныя рэдкія рэчы Радзівілаў, Тышкевічаў і інш. З Менскага Краёвага Музэю было вывезена палякамі больш за 1000 вельмі каштоўных экспанатаў, як розная мэбля, дываны, абразы, бронза, гравюры, мармуравыя і бронзавыя барэльефы і статуі, серабро, тканіна, акварэлі і інш.

Толькі ў адзін адрас станцыі Варшава прыбыло ў 1920 г. з Беларусі 2100 пакункаў (па афіцыйных справаздачах „Товажыства Крэсовэго") старажытнай бронзы, тканін, дываноў, парцэляну, гравюр і інш. Адных абразоў было адрасавана з Менску ў Варшаву 255 пакункаў. Апроч гэтага, пакункі з рэдкімі рэчамі накіроўваліся ў Кракаў, Познань і інш. польскія гарады.

*(Часопіс „Полымя", 1928, №5, с. 173–174).*

*Дзякуем З. САНЬКО за гэты матэрыял.*

## РЭДКАЕ Ў КАЛЕКЦЫЯХ







Маркі часу БНР.

# СТАРЫЯ БЕЛАРУСКІЯ МУЗЭІ

*(Заканчэнне. Пачатак у №2).*

Але тое, што зрабілі ў музэйнай справе браты Тышкевічы, можна назваць подзьвігам. Яны спачатку сабралі рэдкія матэрыялы для сваіх музэяў у Лагойску і Астрашыцкім Гарадку, а потым вырашылі стварыць сваім коштам нешта накшталт агульнанацыянальнага музэя Беларусі, хоць так ён ніколі не фігураваў у прашэньнях, якія Яўстафій і Канстанцін Тышкевічы накіроўвалі цару. Яны абгрунтоўвалі неабходнасьць такога музэя для краю, даказвалі самабытнасьць культуры самога народа. Некалькі разоў ездзіў у Пецярбург археоляг, этнограф і фальклярыст Яўстафій Тышкевіч. Нарэшце, у 1855 годзе найвысачэйша было „дазволена адчыніць для Заходняга краю ўстанову ў Вільні". Выбар выпаў на гэтае места па той прычыне, што тут можна было лепш арганізоўваць кантроль за дзейнасьцю новай установы з боку генэрал-губэрнатарства. Тут быў цэнтр чатырох губэрняў: Віленскай, Гарадзенскай, Ковенскай, Менскай. Разьмясьцілі перавезеныя з Лагойска калекцыі ў старых залах былога Віленскага унівэрсытэта. Сюды прыйшлі працаваць такія прызнаныя дзеячы навукі й культуры, як А. Кіркор, У. Сыракомля, М. Маліноўскі, М. Балінскі, Ю. Крашэўскі, М. Гамаліцкі і іншыя. Ганаровым старшынёй Віленскага музэя старажытнасьцяў абралі Я. Тышкевіча, сакратаром стаў У. Сыракомля. У сьціслыя тэрміны, як цяпер маглі б назваць, экспазыцыю падрыхтавалі да адкрыцьця. Інтэр'ер і экстэр'ер былі аформленыя ў духу часу. Тысячы сабраных прадметаў займалі сваё мейсца ў музэі. Заўзяты аматар старажытнасьцяў Яўстафій Тышкевіч тут дняваў і начаваў, і на фоне сабраных ім рэдкасьцяў гістарычнай „экзотыкі" ён выглядаў у сваім паношаным фраку нейкім бажком. А матэрыялы ўсё пастуталі, і скрупулёзны дасьледчык беларускай даўніны дрыжачымі рукамі, як найдаражэйшы скарб, ставіў іх на адпаведнае мейсца ў экспазыцыі, якая будавалася ня толькі па лёгіцы краналёгіі, але і па лёгіцы прадстаўленай матэрыяльнай культуры.

17 красавіка 1856 года пры вялікай колькасьці гасьцёў музэй адчыніўся. Першым наведвальнікам, асабліва ахвяроўцам, на памяць уручаліся лісткі з аддрукаваным вершам У. Сыракомлі, прысьвечаным гэтай падзеі. Сярод шаноўнай браціі паломнікаў знаходзіўся і віленскі гімназіст Францішак Багушэвіч, будучы беларускі паэта і актыўны ўдзельнік паўстаньня 1863–1864 гадоў. На такі гонар ён меў поўнае права: незадоўга да адкрыцця музэя прынёс сюды свае знаходкі з родных ваколіцаў і здаў У. Сыракомлю і А. Кіркору. Гімназіст Багушэвіч яшчэ ня раз будзе заходзіць сюды, каб адчуць і пачуць водгалас Бацькаўшчыны. Гэта вельмі сімпатычна ў час фарміраваньня яго сьветапогляду, што асабліва прыемна адзначыць напярэдадні 150-годзьдзя зь дня нараджэньня нашага нацыянальнага паэта.

Не адзін толькі Ф. Багушэвіч прынёс у музэй свой антыкварыят. Сюды прысылалі рэдкасьці людзі розных званьняў і саслоўяў, ды і геаграфія паступленьня таксама была шырокая: Менск, Магілёў, Вітэбск, Бабруйск, Маладэчна, Крэва, Смаргонь, Ашмяны, Ракаў, Варняны, Гародня, Полацак, Лошыца, Лешна . . . Слалі нумізматыку, гэральдыку, каменныя сякеры, манускрыпты, мініяцюру, пячаткі . . . Супрацоўнікам музэя работы хватала. Акрамя гэтага, пры музэі арганізавалася віленская Археалагічная камісыя, якая ажыццяўляла кантроль за ўсёй навуковай дзейнасьцю: даклады, рэфэраты, справаздачы з экспэдыцыяў сталі нормай яе працы.

На жаль, музэй і Археалягічная камісыя праіснавалі толькі да вядомых падзеяў 1863 года, і тут жа па прычыне „польскай інтрыгі" іх дзейнасьць была спыненая, а экспанатурай занялася мураўёўская камісыя. Каштоўнасьці з музэя паплылі ў Маскву. Сам Я. Тышкевіч абурыўся такой выхадкай, пакінуў Вільню і пасяліўся ў Віржах, падарваны маральна і матэрыяльна. Хоць пазней нейкая частка экспанатаў і вярнулася назад, але музэй не адрадзіўся. Замест ранейшага адчыніўся йншы – Мураўёўскі, рэакцыйны па сваёй сутнасьці, вакол якога групаваліся адпаведныя сілы.

На тэрыторыі Беларусі арганізоўваліся зусім новыя музэі, асабліва ў губэрнскіх цэнтрах і буйных гарадох, як Магілёўскі музэй, Віцебскі царкоўна-археалягічны, а таксама Менскі царкоўна-археалягічны музэі, а пры Гарадзенскім археалягічным камітэце арганізавалася „царкоўнае стражытнасховішча для захаваньня важных помнікаў і дакумантаў", а фактычна музэй. Не зьнікла цікавасьць да стварэньня і хатніх калекцыяў пры дварох, замках, маёнтках, але такіх музэяў станавілася ўсё менш. Усё ж прыватныя музэі А. Ельскага ў Замосьці, К. Тызенгаўза ў Паставах, А. Гаўсмана ў Менску, Э. Чапскага ў Станькаве, тых жа Радзівілаў у Нясьвіжы яшчэ ня сталі анакранізмам часу, яны і не маглі стаць, бо цікавасьць да культуры духоўнай і матэрыяльнай ніколі не зьяўлялася данінай часу. Уздымы ж і падзеньні ў вывучэньні помнікаў гісторыі і культуры народа заўсёды былі і будуць.

Генадзь КАХАНОЎСКІ.

# «Крыж за Бацькаўшчыну»

У сваёй кніжцы „Рождение Белорусской Советской Республики" Вадзім Круталевіч прыгадвае, што вайсковыя фарміраваньні Беларускай Народнай Рэспублікі мелі сваю ўзнагароду, якая насіла назву „Крыж за Бацькаўшчыну". Гэтым крыжом быў узнагароджаны цэлы шэраг жаўнераў беларускага войска.

Вось ужо пяць гадоў я спрабую адшукаць хоць якія-небудзь зьвесткі пра гэту ўзнагароду, але ўсё дарэмна. Толькі адзін стары нумізмат прыгадаў, што аднойчы ў Вільні, даведаўшысь, што ён з Беларусі, яму прапанавалі нейкі беларускі крыж. Але ўзнагароды яго не цікавілі, і ён асаблівай увагі на яго не зьвярнуў.

Напэўна, праліць сьвятло на гэты крыж мог бы архіў Беларускай Народнай Рэспублікі, але гэты архіў, які знаходзіцца ў Маскве, закрыты нават для навукоўцаў.

Адзіная надзея застаецца на калекцыянэраў беларусікі. Напэўна, ў іх ёсьць нейкія зьвесткі пра гэты крыж, а можа ў каго ёсьць і сама ўзнагарода. Мы будзем удзячны за любыя зьвесткі, што датычаць гэтай, а таксама іншых беларускіх узнагарод.

Алесь СЯРОЖКІН.

# «Беларускія непадцэнзурныя выданьні»

Выстава з такім загалоўкам была наладжаная ў кастрычніку 1990 года ў бібліятэцы Лодзінскага Унівэрсытэту (Польшча) і працягвалася да паловы лістапада. Яе ўкладальнік і аўтар каталога выставы – вядомы мастак Мікалай Давідзюк, ураджэнец Беласточчыны, выкладчык вышэйшай Мастацкай Акадэміі у тым-жа горадзе Лодзь.

Чаму такая выстава зьявілася якраз у Польшчы, а не ў Беларусі? Часткова адказ знойдзем ва ўступе да каталога: „калі трымацца храналогіі падзеяў, дык выпадае адзначыць, што незалежны беларускі выдавецкі рух зарадзіўся ў Польшчы, у Беластоку". Пачаткам яго Мікалай Давідзюк лічыць выдадзеныя ў 1981 годзе „Беларускія дакументы". Тады пачало сваю дзейнасьць Беларускае незалежнае выдавецтва. У Менску, аж да 1986 году, калі паявілася ксераграфічная адбітка „Бурачок", не было нічога апр ча машынапісных і перапісваных рукою гэтак званых „самвыдатаў". Так як тады Беларуская Рэспубліка спазнялася з незалежным друкам у параўнаньні з Беласточчынай, так і цяпер спазняецца са свабодай паказваць яго ў параўнаньні з Польшчай.

„Істотны зрух у незалежным выдавецкім руху меў месца пад канец 1988 году. Спалучаецца гэта непасрэдна з узьнікненьнем Беларускага Народнага фронту „Адраджэньне" – сьцьвярджае Мікалай Давідзюк у тым-жа каталогу і дабаўляе, што БНФ па сёньняшні дзень не зарэестраваны, дзейнічае як арганізацыя нефармальная. З гэтай пары і назіраецца зараджэньне новай перыёдыкі, спачатку ў Менску, потым і на правінцыі. Цяжка сёньня ацаніць, колькі загалоўкаў налічвае непадцэнзурная прэса ў Беларусі, бо побач устойлівых часопісаў, якія ўжо прыдбалі сабе марку, ёсьць і эфемерыдныя зьявы. Паўстаюць яны і зьнікаюць заразжа, не пакінуўшы істотнага сьледу у грамадзкім жыцьці.

Далей Мікалай Давідзюк у сваім каталогу дае кароткую характарыстыку беларускага незалежнага друку. „Можна яго падзяліць на дзьве асноўныя плыні. У першую ўваходзяць выдавецтвы падпісаныя „Адраджэньнем" і зьмяшчаюць яны, галоўным чынам, інфармацыю і праграмы. Другая плынь, яшчэ менш афіцыйная, гэта перш за ўсё выдавецтвы розных нефармальных груповак, між іншым: студэнцкія часопісы, літаратурныя, рэлігійныя (праваслаўныя і каталіцкія) ды нават бібліяграфічны месячнік. Характарыстычнай зьявай гэтага руху ёсьць тое, што вельмі мала у ім літаратурных выданьняў, дамінуе публіцыстыка. Засяроджваецца яна на некаторых тэмах, такіх як абарона роднай мовы і нацыянальнай культуры. Іншай балючай тэмай зьяўляецца Чарнобыль, вынікі якога больш страшныя, чымсьці спачатку ўяўлялася. Гаворыцца нават пра два Чарнобылі на Беларусі: атамны і духоўны. Абодва сьмяртэльна небясьпечныя для беларускага народу".

У выставе памешчаны толькі арыгінальныя выданьні. Усе экспанаты з прыватных збораў. Апрача перыёдыкі можна паглядзець на выставе здымкі, эмблемы ды розныя лістоўкі. Лодзінская выстава, як дагэтуль, зьяўляецца самым поўным зборам беларускіх незалежных выдавецтваў апошніх дзесяці гадоў.

(„Хрысьціянскія навіны")

## У нашых калекцыянераў




Калекцыі бываюць самыя розныя. Да прыкладу, Алесь Шынкевіч з Воршы зьбірае выявы старажытных камянёў і надмагільляў. Прапануем вашай увазе частку яго калекцыі „Варыяцыі выявы крыжа і старажытныя надмагільлі на Аршаншчыне".

1 – на гарадзішчы ў вёсцы Гараны;

2 – на могілках побач з гарадзішчам ля вёскі Лешча;

3, 12, 14 – на правым беразе Дняпра (насупраць вёскі Гацькаўшчына);

4 – на правым беразе Лешчы на могілках ля вёскі Люціны;

5 – на могілках ля вёскі Гацькаўшчына;

6, 7, 10 – на могілках ля вёскі Паддубцы;

8 – агульны выгляд большасьці каменных крыжоў на Аршаншчыне;

9 – на могілках побач са старажытнымі курганамі ў вёсцы Казечкі;

11 – на гарадзішчы ля вёскі Раговіна;

13 – на левым беразе Пачаліцы на могілках вышэй вёскі Граадня.

# МУЗЭІ дарэвалюцыйнага Менску

Кожны народ позна ці рана пачынае зьбіраць свае скарбы. Спачатку вылучаюцца найбольш сьвядомыя й адукаваныя, а да таго заможныя асобы, клопатамі якіх утвараюцца хатнія калекцыі. Затым гэта справа знаходзіць грамадзкае прызнаньне – і ўзьнікаюць музэі. Прыкладна такім шляхам разьвівалася музэйная справа і ў Даўнім Менску. Ёсьць зьвесткі 30–40-х гадоў XIX стагодзьдзя пра так званы „габі. эт" М. Гаўсмана, які знаходзіўся на Саборным пляцы (цяпер пляц Свабоды). Яго гаспадар экспанаваў творы мастацтва, матэрыялы па археалёгіі, прадметы побыту беларусаў. Гэта быў час, калі прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі (пераважна польскамоўнай) пакрысе пачыналі вяртацца да сваіх каранёў – беларускай культуры. Але паўстаньне супраць цара ў 1863–1964 гадох прывяло іх да шыбеніцы, катаргі й высылкі. Шлях да нацыянальнае самасьвядомасьці, здавалася б, быў перарэзаны.

Ды ня ўсе нацыянальныя ўсходы царскім слугам удалося зьнішчыць. Ужо да канца XIX стагодзьдзя беларускі гісторык, археоляг і калекцыянер Г. Татур (1846–1907) стварыў у Менску багаты прыватны музэй беларускай матэрыяльнай культуры, а таксама выключна каштоўную бібліятэку рукапісаў і старадрукаваных кнігаў па гісторыі Беларусі, якая мела каля шасьці з паловай тысячаў тамоў, у тым ліку і „Біблію" Ф. Скарыны. За працу калекцыянера Генрых Хрысьціянавіч узяўся ў 14-гадовым узросьце. Пасьля 1863 года вялася зацятая барацьба царызму супраць беларускасьці. Але і ў гэтых складаных варунках Г. Татур ня здрадзіў сваёй справе. Вялікі знаўца даўніны, ён многа рабіў для пашырэньня ведаў пра Беларусь сярод моладзі.

А. Уласаў, таленавіты літаратар, выдавец і грамадзкі дзеяч, успамінаючы аб сваіх гімназічных сустрэчах 90-х гадоў зь беларускім песьняром Карусем Каганцом і Генрыхам Татурам, ня без падстаў заўважыў, што гэта былі два магіканіны, якія захавалі зародак беларускай ідэі і не далі ёй зачахнуць. Сярод вучняў і пасьлядоўнікаў беларускіх асьветнікаў можна прыгадаць братоў Антона і Івана Луцкевічаў, выдатных дзеячаў беларускага нацыянальнавызваленчага руху, стваральнікаў першых беларускіх газэт „Наша доля" й „Наша ніва". Дарэчы адзначыць, што эстафета з рук Г. Татура і ў літаральным сэнсе гэтага слова перайшла да аднаго з Луцкевічаў – Івана, які займаўся гісторыяй Беларусі і калекцыянаваньнем. Вось толькі не ўдалося атрымаць у спадчыну татурскія скарбы. Ды ня толькі яму, але й гораду. Г. Татур, на жаль, не завяшчаў Менску ні свайго музэя, ні бібліятэкі. А каб купіць гэты збор, у гарадзкой управы не было сродкаў. Гаспадар ацэньваў яго ў 300 тысячаў рублёў. Расейская Акадэмія навук па хадайніцтву вядомага расейскага славяназнаўцы А. Шахматава таксама меркавала набыць калекцыю, але змагла выдзеліць для гэтай мэты ўсяго 7 тысячаў рублёў.

У 1907 годзе насьледнікі прадалі асноўную частку экспанатаў музэя і кнігаў графу Тышкевічу, даўняму сябру Татура, уладальніку маёнтка Чырвоны Двор (пад Вільняй). Усё, што засталося, разышлося затым па розных музэях і прыватных зборах. Непапраўную страту панёс і горад, і ўся беларуская культура. І каб гэта адзіны прыклад! У 1893 годзе ў Менску зьніклі ўсе гістарычныя дакументы з архіваў Менскай і Тураўскай епархіяў.

Такія страты былі непазьбежныя, бо беларускі народ ня меў сваёй дзяржаўнасьці. Расейская ж дзяржава не рабіла асаблівых намаганьняў, каб зьберагчы культурную спадчыну беларусаў, а калі і садзейнічала вывучэньню Беларускага краю, дык толькі з адзінай мэтай – даказаць яго „истинно русскую" прыналежнасьць. Тым ня менш, расейская інтэлігенцыя, у тым ліку й мясцовая, атрымала магчымасьць прыступіць да грунтоўнага вывучэньня матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў. Збор народных скарбаў атрымаў афіцыйную падтрымку або, хутчэй, дазвол. Хаця, праўда, і надалей ён трымаўся ў асноўным на самаахвярнай працы асобных дзеячаў расейскай культуры. Менавіта яны выступалі ініцыятарамі стварэньня на Беларусі этнаграфічных і краязнаўчых музэяў. Першы зь іх узнік яшчэ ў 1867 годзе ў Магілёве.

Менская грамадзкасьць доўга не рабіла ніякіх захадаў у гэтым кірунку. Можа, спадзявалася на Г. Татура. Ва ўсякім разе, толькі ў 1908 годзе адбыліся нейкія зрухі. Ствараецца Менскі царкоўны гісторыка-археалягічны камітэт, які дзейнічае пры Менскай епархіі да самага пачатку першай сусьветнай вайны. Ідэю аб яго арганізацыі падаў Д. Скрынчанка – рэдактар „Минских епархиальных ведомостей". Яго падтрымалі інспектар духоўнай сэмінарыі А. Паноў, выкладчык мужчынскай гімназіі А. Смародскі. Старшынёй абралі дырэктара народных вучылішчаў М. Былова, які, праўда, у хуткім часе памёр. У 1909 годзе на чале камітэта стаў гісторык А. Сьнітка. Вакол яго згуртаваліся дзеячы лібэральнага кірунку. У рабоце камітэта прымалі ўдзел гісторык Д. Даўгяла і ўжо вядомы нам А. Шахматаў.

А. Сьнітка кіраваў музэем амаль што з самага яго адкрыцьця (1908). Ён узначальваў будаўніцтва новага памяшканьня (зараз Дом мастацтваў на праспэкце Леніна), вёў археалягічныя раскопкі, часьцей за ўсё сам вадзіў экскурсіі. Члены яго сям'і ўдзельнічалі ў афармленьні экспанатаў. Дзейнасьць музэя ажывілася, калі да яе далучыўся вядомы беларускі этнограф І. Сербаў. Ён рабіў фотаздымкі, запісваў народныя песьні. Спачатку музэем карысталася вузкае кола зацікаўленых асобаў. І толькі ў 1910 годзе ён адчыніў свае дзьверы для ўсіх жадаючых. Наведвальнікаў запрашалі кожную нядзелю пасля абедні.

У часе першае сусветнае вайны музэй і бібліятэка былі эвакуіраваныя ў Разань. Частка экспанатаў вярнулася ў Менск толькі ў 1922 годзе і была перададзеная Беларускаму дзяржаўнаму музэю, які адкрыўся ў тым жа годзе ў былым Архірэйскім доме (зараз на яго месцы Дом ахвіцэраў).

Адметнай рысай музэяў таго часу было тое, што яны дзейнічалі пры вялікім удзеле грамадзкасьці. Вось і гарадзкі музэй Менска сваім зьяўленьнем быў абавязаны Таварыству аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалёгіі, якое ўзьнікла ў траўні 1912 года. Першым старшынёй таварыства быў абраны А. Флераў, дырэктар Менскай балотнай станцыі. У склад сяброў уваходзілі менскі лекарскі інспэктар С. Урванцоў, інжынэр-тэхноляг і сябра гарадзкой думы В. Цывінскі, галава ўправы земляробства і дзяржаўнай маёмасьці Менскай губерні І. Шамігонаў, старшыня казённай палаты Ф. Ястрэмскі, гарадзкі лекар А. Грацыянаў і інш. Пытаньне пра стварэньне музэя ўзьнікла на першым жа сходзе. Гарадзкая ўправа падтрымала прыродазнаўцаў, і ў чэрвені 1912 года музэй быў адкрыты. Ён існаваў за кошт гарадзкога бюджэту і ахвяраваньняў прыватных асабаў і ўстаноў. Узначальвала музэй рада зь пяці чалавек, трое зь якіх выбіраліся ад гарадзкога кіраўніцтва, а двое – ад таварыства.

Спачатку матэрыялы зьбіраліся па частках у земскай управе, у казначэя таварыства А. Смародскага і ў сакратара М. Кузьняцова, а з 1913 года былі перавезеныя ў памяшканьне музэя. Яно знаходзілася на рагу вуліц Захар'еўскай і Серпухоўскай, у доме Федаровіч (раён паштамта).

У музэі было 5 аддзелаў: гістарычны, археалягічны, этнаграфічны, прыродазнаўчы, мастацка-прамысловы. Дэманстраваліся ўзоры глебы і мінэралаў, чучалы зьвяроў і птушак, экзэмпляры выкапнёвых жывёлаў, старажытныя прылады працы, старадаўнія манэты, мастацка-прыкладныя матэрыялы. Зьберагаліся тут і кнігі, мапы, рукапісы, гравюры.

Аснову экспазіцыі склалі шматлікія дары сяброў таварыства, розных установаў, мясцовай інтэлігенцыі. Так, менскі губэрнатар Я. Эрдэлі ахвяраваў самаробную стрэльбу селяніна Ігуменскага павета, асколак мэтэарыта з Рэчыцкага павета, А. Флераў – 36 кнігаў і брашураў, М. Кузняцоў – тры каменныя сякеры, два кавалкі акамянелага дрэва, чатыры экзэмпляры выкапнёвых жывёлаў, жалезны наканечнік дзіды, С. Штрох – 31 старадаўнюю манэту, Ф. Пфлямбаўм – ікол маманта, Б. Данейка на правох дэпанента экспанаваў у музэі свае заалягічныя, геалягічныя, этнаграфічныя й археалягічныя калекцыі, якія ацэньваліся ў 10 тысячаў рублёў. У траўні 1913 года дом Федаровіч асабліва прываблівае менчукаў: тут на грунце сабраных музэйных матэрыялаў праводзілася мастацкая й этнаграфічная выстава. Існаваў музэй да 1915 года. У 1920 годзе частка экспанатаў, якую зьберагла Федаровіч, была перададзеная Менскаму абласному музэю. А вось гарадзкі музэй так і не аднавіўся. Ня створаны ён і да сёньняшняга дня.

Былі ў Менску і музэі больш вузкай спэцыялізацыі: сельскай гаспадаркі (земскі), манэтаў, рэдкіх паталягічных прэпаратаў пры Менскім таварыстве лекараў, мастацка-прамысловы пры Менскім камэрцыйным вучылішчы. Яны сьведчылі аб узрослай цікавасьці гараджан да гісторыі краю, да яго матэрыяльных і духоўных здабыткаў. Узьнікалі ўстановы спачатку як своеасаблівыя творчыя лябараторыі, а затым паступова ператвараліся ў масавыя культурна-асьветніцкія цэнтры. Іх дзейнасьць ніяк не супадала з намерамі царскага ўрада й яго асобных мясцовых прыхільнікаў – даказаць „истинно русский" характар Беларускага краю, – бо сабраныя і вывучаныя скарбы яго бясспрэчна пацьвярджалі нацыянальную самабытнасьць беларускага народа.

Захар ШЫБЕКА,
Соня ШЫБЕКА.

(„Голас Радзімы").

# БЕЛАРУСКІЯ МАНЕТНЫЯ ДВАРЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на 1–2 ста[*

Сёння вядомы толькі адзін „трояк" і два тыпы „шастакоў" 1706 года і адзін „шастак" 1707 года. Яны былі чаканены з вельмі благога срэбра 4-ох лотавай пробы (4 лоты чыстага срэбра на 12 лотаў дамешкі).

Тут трэба крыху больш падрабязна апісаць гэтыя вельмі рэдкія ў беларускай нумізматыцы манеты.

„Трояк" (трайны грош) гродзенскі 1706 года.

На аверсе: бюст караля ў кароне ўправа. Вакол легенда, якая расшыфроўваецца: „Аўгуст другі з Божай ласкі кароль Польшчы, Вялікі (тры грошы) князь Літоўскі і інш., электар Саксонскі".

На рэверсе: пад каронай герб Вялікага княства Літоўскага – „Пагоня". Ніжэй літары „ –Р" і герб Л. Пацея – „Вага". Вакол легенда: „Манета новая, сярэбраная Вялікага княства Літоўскага. 1706 г."

„Шастак" (шасцігрошавік) гродзенскі 1706 года.

На аверсе: бюст караля ў кароне ўправа. Вакол легенда: „Аўгуст другі з Божай ласкі кароль Польшчы, Вялікі князь Літоўскі і інш., электар Саксонскі".

На рэверсе: пад каронай лічба „УІ" і тры шчыткі з гербамі: Польшчы, Вялікага княства Літоўскага і Саксоніі. Ніжэй літары „І – Р" і герб Л. Пацея – „Вага". Вакол легенда: „Грош сярэбраны шасцярны каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага. 1706 г."

Другі тып гэтай манеты адрозніваецца малюнкам бюста караля, а ў легендзе на рэверсе замест літар „І ІТ", літары „І І" і крыху інакш выкананы малюнак герба „Вага".

„Шастак" (шасцігрошавік) гродзенскі 1707 года.

Малюнак аверса і рэверса такі самы, як і ў шасцігрошавіка 1706 года, толькі на рэверсе лічбы года – „1707" і памылка ў напісанні лічбы намінала: замест „УІ", напісана „ІУ".

Раз'юшаныя прыхільнікі новага караля Станіслава Ляшчынскага наладзілі сапраўднае паляванне на гэтыя манеты. Тых, у каго знаходзілі гродзенскую манету, забівалі на месцы без суда і следства. Тады і ўзнікла цікавая расшыфроўка літар „І Р" (Людвіг Пацей) на адваротным баку манеты. Іх чыталі як „людскі плач". Але „плач" гэты скончыўся ўжо ў 1709 годзе, калі на польскі трон вярнуўся Аўгуст ІІ Моцны, а „траякі" і „шастакі" Пацея сталі праўным сродкам плацяжоў на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Шкада толькі, што час і людзі знішчылі вялікую колькасць гэтых цікавых узораў беларускай нумізматыкі.

Яшчэ ў 60-ыя гады бачыў я адну такую манету ў былога дырэктара Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя П. І. Баграціёна – Георгія Восіпавіча Пеха.

Але на гэтым не скончылася гісторыя Гродзенскага манетнага двара.

Мінула 60 год.

Грашовая рэформа ў самым пачатку праўлення апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1764–1795 г., герб „Цялё") увяла новыя наміналы манет. Пачалася скупка і пераплаўка манет ХУІІ стагоддзя – тымфаў і шасцігрошавікаў. Але новыя манеты вельмі павольна і ў нязначных колькасцях прасочваліся на тэрыторыю Беларусі, і, відаць, па гэтай прычыне вырашана было адкрыць ізноў манетны двор у Гродна. Ужо ў 1767 годзе пад манетны двор быў пабудаваны дом, а Гартэнбэрг закупіў машыны і інструменты на суму звыш 34 тысяч злотых. Але да чаканкі манет справа не дайшла.

Напалоханая прагрэсіўнымі рэформамі чатырохгадовага польскага сейма (1788–1792) і канстытуцыяй 3 мая 1791 года, руская імператрыца Кацярына ІІ ўтварыла рэакцыйную канфедэрацыю магнатаў і шляхты Рэчы Паспалітай. Акт канфедэрацыі быў падпісаны ў Пецярбургу 27 красавіка трынаццаццю буйнымі польскімі магнатамі на чале з Шчэнсным Патоцкім, Севярынам Ржавускім і Ксаверым Браніцкім. А 14 мая 1792 года акт быў апублікаваны ў пагранічным украінскім мястэчку Таргавіца (адсюль і назва канфедэрацыі – таргавіцкая).. Каб прыцягнуць на свой бок шырокія масы шляхты, акт канфедэрацыі абвяшчаў з'яднанне канфедэратаў пад лозунгам каталіцызму, свабоды і роўнасці шляхты.

Але каб хутчэй авалодаць краінай, войска якой было на баку варшаўскіх рэфарматаў, канфедэраты папрасілі ў Кацярыны ІІ ваеннай дапамогі. Гэта ўсяцэла супадала з планамі імператрыцы, якая ўжо рыхтавала другі падзел Польшчы. Стотысячнае рускае войска за два месяцы разбіла трыццацітысячнае войска польскіх канстытуцыяналістаў. Дарэмна імкнучыся выратаваць рэформы чатырохгадовага сейма, кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў ліпені 1793 года далучаецца да канфедэратаў.

Захапіўшы ўладу ў краіне, канфедэраты спачатку зрабілі сваёй рэзідэнцыяй Брэст, а праз нядоўгі час перавялі яе ў Гродна.

Найбольш верагодна, што менавіта тут, у Гродне, і быў адчаканены яшчэ адзін нумізматычны рарытэт зямлі беларускай – таргавіцкі талер 1793 г.

Хоць з дня абсталявання ў Гродна манетнага двара (1767 г.) мінула дваццаць шэсць год, але машыны і інструменты, напэўна, захаваліся і былі яны, відаць, даволі сучасныя, бо тэхніка выканання талера сапраўды высокая.

Вядомыя нумізматы ХІХ стагоддзя лічылі яго медалём, ігнаруючы надпіс на рэверсе: „10 7/16 з грыўні калонскай чыстага срэбра", – а гэта відавочныя дадзеныя аб манетнай стапе Рэчы Паспалітай ад 15 сакавіка 1787 года.

Цікавы гэты талер і тым, што не мае ніякіх выяўленчых элементаў (за выключэннем дубовага вянка на аверсе) – адны надпісы з двух бакоў. Вось яго апісанне:

Аверс: у цэнтры манеты, у дубовым вянку, дзевяцівершавая лацінская легенда: „Грамадзянам, якія, кіруючыся любоўю да краіны, стараліся абараніць свабоду Польшчы, знішчаную змовай 3 мая 1791 г. – паўстаўшая Рэч Паспалітая".

Вакол (за вянком) кругавая легенда: „Удзячнасць суайчыннікаў – прыклад для будучых часоў".

Рэверс: у цэнтры манеты шасцівершавая лацінская легенда: „Пастановай Рэчы Паспалітай, аб'яднанай у канфедэрацыю 5 снежня 1792 года ў панаванне Станіслава Аўгуста".

Вакол кругавая легенда: „10 7/16 штук з грыўні калонскай чыстага срэбра. 1793."

Срэбра. Дыяметр: 41,8 мм. Вага: 27,56 грама.

Эмісія „таргавіцкага талера" не магла быць вялікай, як лічаць польскія нумізматы, – недзе 6–10 тысяч штук, бо, відавочна, рабілі іх перачаканкай звычайных польскіх талераў тых часоў (другой сыравіны канфедэраты не мелі). На карысць гэтага прылушчэння сведчыць і гуртавы надпіс „таргавіцкіх талераў", які перакладаецца з латыні – вера пад гарантыю грамадскасці, – аналагічны гуртавому надпісу пераважнай большасці талераў Станіслава Аўгуста.

Вядомы два варыянты штэмпеляў „таргавіцкага талера" з гуртавым надпісам: верхнія канцы дубовага вянка на аверсе не датыкаюцца, а на другім – злучаны. Апошні варыянт вядомы яшчэ і з гладкім гуртам, чаканены са срэбра і медзі.

Некалі прыйдзе, напэўна, час, калі надпіс у кавычках „таргавіцкі талер" мы будзем пісаць без кавычак і зусім інакш: гродзенскі талер.

На заканчэньне трэба яшчэ адзначыць, што польскія нумізматы Ч. Камінські і Э. Капіцкі мяркуюць, што і манеты часоў паўстання Тадэвуша Касцюшкі (1794–1795) з партрэтам Станіслава Аўгуста былі таксама выпушчаны Гродзенскім манетным дварам.

У пошук, беларускія нумізматы!

Міхась ВЕРАЦІЛА.







*Талер 1793 года, адчаканены ў Гародні.*

# Калышанскія боны «кігілкі»

Пра калышанскія грошы баністам вядома даўно, адно з першых паведамленняў было надрукавана яшчэ ў 1928 годзе. Аўтар гэтага паведамленьня былы фінансавы работнік Віцебскай губерніі Г. В. Васкрасенскі бачыў калышанскія боны, удзельнічаў у іх зьнішчэньні. У далейшым Г. В. Васкрасенскі стаў вядомым філатэлістам на Беларусі, адзін з першых сярод нас пачаў калекцыяніраваць канвэрты на беларускую тэму. Вось ён і распавёў мне ўсё, што ведаў пра калышанскія боны. У пачатку 70-х гадоў я ўпершыню зьмясьціў у дзвюх газэтах Віцебскай вобласьці невялікі матэрыял пра боны м. Калышкі, тады ж я неаднойчы спрабаваў адшукаць ці хаця бы ўбачыць хоць адзін асобнік калышанскіх грошай. Але мае спробы, звароты да шматлікіх вядомых і ня так вядомых баністам краіны, прывялі да аднаго выніку – усе ведаюць пра гэтыя боны т. як некаторыя зьвесткі пра іх ёсьць у каталёгах, але ніхто ня мае іх у калекцыі. Агульным было і тое, што ўсе лічаць калышанскія боны свайго роду унікамі. Тагачасныя мае публікацыі пра калышанскія грошы былі далёка ня поўныя. У выніку шэрагу прычын таго часу ня ўсё можна было пісаць нават пра боны 50-гадовай даўнасьці, а калі і пісалася, то шмат што выкрэслівалася. Усе што паведаміў мне пра гэтыя боны Г. В. Васкрасенскі, ён даведаўся ад асоб блізка стаячых да выданьня гэтых цікавых грошай.

У 1918 годзе скрозь яшчэ мелі ўжытак керанкі, але гэта былі даволі вялікія па наміналу грошы, у м. Калышкі Віцебскай акругі, што далёка ад цэнтра і амаль у 25 км ад бліжэйшай чыгуначнай станцыі, адчуваўся востры недахоп дробных разьменных грашовых знакаў. Насельніцтва Калышак было пастаўлена ў бязвыхаднае становішча, бо практычна нічога нельга было купіць. Тады Управа Яўрэйскай Грамады, „Кагал", меўшая ў мястэчку ўніверсальны гандаль, і вырашыла выпусціць мясцовыя разьменныя грашовыя знакі.

Назва гэтых бон паходзіць ад назвы Грамады. Кігілкі выпускаліся двойчы.

Першы выпуск даволі прымітыўнага віду памерам 10х6 см меў вартасьць у 1, 2, 3, 5 і 10 рублёў. На правым баку, акружаным сьцільнай рамкай, меўся надпіс у два радкі – верхнія радкі на старажытна-яўрэйскай „іуар мейгуэд ал (хамішо) рубл", другі радок тойжа надпіс, але на расейскай мове (у адным з каталёгаў напісана – на беларускай мове) – „Квитанция на (пять) рублей". Зразумела, абазначэньне кошту квітанцыі і намінал мяняліся.

У левым ніжнім куту на кожнай боне-квітанцыі стаяла круглая пячатка Грамады з расейскім тэкстам „Комитет Еврейской Общины" а ў цэнтру па гарызанталі „Колышки. Витеб. губ.". На гэтым жа баку меліся надпісы: „ешейврейш" (председатель) і подпіс ад рукі чарнілам таксама па-яўрэйску – „Залман Ноэ, мазкір" (секретарь) – „М. Райхлин „гизбейр (казначей) Незлин". Аднак большая частка бонаў першага выпуску была выпушчана з надпісам „За казначея Выдревич".

На адваротным баку квітанцыі таксама меўся надпіс на старажытна-яўрэйскай мове ў чатыры радкі: „Ваад гакгило гонврис Колышк илах Витебск – (Правление Еврейской Общины, Колышки Витебской губ.)". Ніжэй гэтага надпісу таксама па-яўрэйску абазначаўся – дзень, месяц, год, але большасць бон ня мела даты. У самым нізе квітанцы ставіўся нумар ад рукі чарнілам.

Як бачым, боны першага выпуску мелі вельмі непрыглядны выгляд. Тым больш, што, маючы розную вартасьць, яны не адрозніваліся па колеру – усё гэта стварала вялікую нязручнасьць для жыхароў Калышак і суседніх вёсак у большасці сваёй малапісьменных а то і зусім непісьменных. Вырашана было гэтыя нязручнасьці ўбраць.

Калышанскія боны друкаваліся на простай, тонкай паперы ручным гумавым штампам, якіх ля правага боку мелася пяць, для кожнай вартасьці асобны, адзін агульны для адваротнага боку. Боны вядомы ў двух колерах – сінім і ружовым.

Боны мелі хаджэньне ня толькі ў Калышках і навакольных вёсках, а нават у валасным цэнтры Лёзна. Ёсьць зьвесткі аб прыёмцы калышанскіх грошай у Віцебску і Смаленску, але адважваліся на такія фінансавыя аперацыі толькі тыя, хто асабіста ведаў старшыню яўрэйскай Грамады ў Калышках. Боны паўсюль прымаліся ў крамах Грамады ўзамен на прадукты і прамтавары, „Кігілкамі" аплачвалася праца, сяляне атрымлівалі іх за праданыя прадукты. Квітанцыі прымаліся насельніцтвам без пярэчаньняў, аўтарытэт Грамады быў высокі.

„Кігілкі" мелі хаджэньне ўсяго некалькі месяцаў, пасьля зьяўленьня першых савецкіх разьменных грашовых знакаў у трохмесячны тэрмін Грамада абмяняла квітанцыі на новыя грошы і тавары. Была створана грамадская камісія, і абменныя боны былі спалены, пра што быў складзены сьпэцыяльны акт. Вызначыць суму калышанскай „эмісіі" ў цяперашні час практычна немагчыма, як і колькасьць выпушчаных бон. Са слоў Г. В. Васкрасенскага, іх было больш за дзьве тысячы, бо пры спаленьні квітанцый ён бачыў у акце нумар адной зь іх, перавышаючы дзьве тысячы.

Па ім бачна, што на руках у насельніцтва засталося вельмі мала „кігілак", а тыя, што трапілі ў калекцыі беларускіх баністаў, загінулі ў часы вайны.

Леў КОЛАСАЎ.

Калышкі – мястэчка ў Лёзненскім раёне.

## АБ'ЯВЫ

*Набуду кніжкі па гісторыі Беларусі; боны, латарэйныя квіткі, аблігацыі, чэкі, вэкселі, што абарачаліся на Беларусі; беларускія маркі і іншае. Маю абменны фонд. АДРАС: 231911 Гродзенская вобласьць, Ваўкавыскі р-н, г. п. Красносельскі, вул. Міру, д. 13. Міхась Вераціла.*

x x x

*Працуем над тэмай „Шэсць стагоддзяў Пагоні". Будзем удзячны за фотаздымкі з анатацыямі са значкоў, паштовак, спражак, дакумэнтаў, эксlібрысаў, маек, наклеяк, кніжнай графікі, жывапісу, медалёў і г. д. Дасылаць на адрас: 220050, Менск, вул. Інтэрнацыянальная, д. 11, БРПІ. Марухінай Дар'і, Сінчуку Івану.*

„Беларускі калекцыянер" – ворган Арганізацыйнага камітэту Беларускага таварыства калекцыянераў.

*Аршанская друкарня. Заказ № 904*

*АДРАС ДЛЯ ЛІСТАВАНЬНЯ: 211030, места Ворша, вул. Флёрава, д. 7, кв. 16. Сярожкіну Алесю Міхайлавічу.*

Кошт 60 капеек.

Наклад 990 асобнікаў.
Нумар рыхтавалі
А. СЯРОЖКІН
і Ул. ПЯРОХІН.
Здымкі А. ШЫНКЕВІЧА.